

Мазырскія Навіны

Гавары - і цябе пачуюць

№ 8
лістапад, 2012

ГРАМАДСКАЕ ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАННЕ

# Мазырскі праваабаронца паказаў уладам, як выглядаюць ускраіны горада

Мазырскі праваабаронца Уладзімір Целяпун звярнуўся з адкрытым лістом да старшыняў райвыканкама і райсавету дэпутатаў, у якім просіць звярнуць увагу на добраўпарадкаванне, дакладней, яго адсутнасць на ўскраінах горада. Да свайго лісту ён прыклаў шмат фота, якія яскрава сведчаць, што робіцца на вуліцах, аддаленых ад цэнтра Мазыра.

Праваабаронца піша, што мясцовай уладай шмат зроблена, каб цэнтр горада выглядаў прыгожа: тут нават жыхары прыватнага сектара знаходзяцца ў лепшым становішчы. Ім за кошт бюджэту усталёўваюць добрыя платы, крыюць дахі, толькі каб усе было прывабна для зроку гасцей і высокіх чыноўнікаў.

Іншая справа - на ўскраінах Мазыра. Тут у асноўным пражываюць людзі сталага веку, пенсіянеры, і яны не ў стане самастойна добраўпарадкаваць вуліцы.

«Але гэта не азначае, што на ўскраінах горада не павінна нічога не рабіцца. Спачатку, каб нешта патрабаваць ад людзей, уладам трэба зрабіць тую працу, якая ад людзей не залежыць. Альбо аказаць ім пэўную падтрымку. Потым распрацаваць ясную і дакладную працэдуру абавязкаў грамадзян каля свайго домаўладання. Уладамі створана вялікая колькасць ідэолагаў. Яны зарабляюць шалёныя грошы за сваю папяровую працу, а з людзьмі працаваць не жадаюць. Трэба зайсці ў кожны двор, у кожную хату і гаварыць з людзьмі. Тлумачыць ім, што яны абавязаны рабіць. Але спачатку трэба уладам зрабіць каля кожнага двара, дома сваю працу», - прапануе Уладзімір Целяпун.





Ён піша, што вынік працы чыноўнікаў падводзіць маці-прырода, і ён несуцяшальны. Вынікі дзейнасці - на фота. «Напрыклад, вуліца Гастэла. Хто па ёй едзе, альбо крочыць можа паўтарыць лёс героя. Газаправод, сувязь, водаправод – усё на паверхні. Летам у 30-ці градусную спёку жыхары баяліся, што можа не вытрымаць газаправод. Дастаткова вострага каменьчыка, аскепка шкла – здарыцца выбух. З надыходам зімы турбуюцца за водаправод - замерзне вада. Не дазваніцца, не дачакацца. Прыедуць чыноўнікі, паглядзяць. Прысыплюць пясочкам… Людзям вочы, сабе сваё сумленне. Чарговы дождж усё змые… і пакажа сутнасць бязмежнага цынізму ўладаў да праблемаў грамадзян, жывучых на ўскраінах Мазыра», - звяртае ўвагу начальнікаў праваабаронца.

Не лепшым чынам выглядаюць і вуліцы іншых герояў – Заслонава, Матросава, Бумажкова.

Уладзімір Целяпун просіць улады паведаміць праз СМІ, што плануецца зрабіць у гэтым накірунку для жыхароў мазырскіх ускраін для паляпшэння навакольнага асяроддзя іх існавання і вырашэння праблемаў.

Уладзімір Целяпун таксама звяртае ўвагу на тое, як праводзіцца ў горадзе «Месячнік па навядзенню парадку на зямлі і добраўпарадкаванню», абвешчаны райвыканкамам з 15 кастрычніка па 15 лістапада. Мэта месячніка - не толькі навесці парадак, але і «фарміраванне ў жыхароў Мазырскага раёна культуры быту, беражлівых і стваральных адносінаў да

*Окончание на стр. 2*

*Начало на стр.1*



навакольнага асяроддзя». Праваабаронца лічыць, што час правядзення месячніка выбраны няўдала: позняя восень, ідуць дажджы, снег. «А пажаданне кіраўніцтва раёна, гэта прыказ, па сутнасці, для кіраўнікоў ніжэйшага ўзроўню.



І тыя вымушаюць сваіх падначаленых працаваць ў любое надвор'е. Цікава было б даведацца статыстыку захворванняў за гэты час жыхароў раёна», - мяркуе Уладзімір Целяпун.

Ён звяртае ўвагу, што ў час правядзення месячніка парадку ў горадзе зачынілі тры грамадскія лазні, якія пачалі рамантаваць, альбо яны часова зачыніліся з нейкіх іншых прычынаў. «Засталася працуючай лазня на Пралетарскай, дзе ў нядзелю, 4 лістапада, былі перапоўнены мужчынскае і жаночае аддзяленні. Прычым за тыдзень павялічыўся і кошт наведвання – з дзесяці да пятнаццаці тысяч. З-за недахопу месцаў, дзе можна распрануцца, прыбіральшчыцы прапаноўвалі бытавыя памяшканні. Але пры гэтым дадатковых шаек для вады ўсім усё роўна не хапіла», - распавёў праваабаронца.

Ён дадаў, што і грамадскія прыбіральні не адрамантаваны (бульвар Страканіцкі), і не пабудаваны дадаткова ў Мазыры (пл. Горкага, бул. Юнацтва, вул. Прытыцкага). У час правядзення святочных мерапрыемстваў гэтую «культуру быту» вельмі адчуваюць жыхары бліжэйшых дамоў.



*Пасля рамонту па вул. Заслонава*



*Вул. Гастэла зрабіць не паспелі...*



*Вынік пясчанага рамонту...*

# Лукашэнка забараніў звальняцца з працы

30.11.2012 **Крыніца**: БЕЛТА



*Лукашэнка падчас сустрэчы на дрэваапрацоўчым комплексе, фота БелТА*

**Аляксандр Лукашэнка запатрабаваў увесці забарону на звальненне работнікаў да канца мадэрнізацыі дрэваапрацоўчых прадпрыемстваў канцэрна «Беллеспаперапрам».**

Лукашэнка сёння, наведваючы ААТ «Барысаўдрэў», даручыў распрацаваць адпаведны праект дэкрэта.

«Падрыхтуйце дэкрэт. Да заканчэння мадэрнізацыі і рэканструкцыі забараняецца звальненне работнікаў. Работнік не можа звольніцца з гэтага прадпрыемства без дазволу кіраўніка», — сказаў Лукашэнка.

«Адпусцілі — хай сыходзіць, не адпусцілі — павінен працаваць. За парушэнне — на прымусовыя работы. Рабочы, спецыяліст і кіраўнік. МУС давесці.А то мы дастукаемся да таго, што заўтра пачнуць хадзіць па Барысаве і Мінску з віламі і адзін аднаго калоць, замест таго каб запусціць у вытворчасць і атрымліваць $ 1 тыс. у 2015 годзе», — падкрэсліў Лукашэнка.

«Таму катэгарычна забараніць усякія звальненні з заўтрашняга дня — 1 снежня», — запатрабаваў ён.

У рэспубліканскім камітэце Беларускага прафсаюза работнікаў лесу падкрэсліваюць, што работнікі прадпрыемстваў, якія працуюць на падставе працоўнай дамовы, могуць звольніцца ў любы момант.

«У Беларусі дзейнічае Працоўны кодэкс, яго ніхто не адмяняў. У адпаведнасці з ім, работнік, які працуе на падставе працоўнай дамовы, можа ў любы момант падаць заяву аб звальненні па ўласным жаданні і па заканчэнні пакладзенага тэрміна быць звольненым. Ніякай згоды кіраўніка прадпрыемства для гэтага не трэба», - паведаміў агенцтву Інтэрфакс-Захад» прадстаўнік рэспубліканскага камітэта. Такім чынам ён пракаментаваў выказванні Аляксандра Лукашэнкі аб кадравай палітыцы на дрэваапрацоўчых прадпрыемствах рэспублікі, зробленыя ім падчас наведвання ў пятніцу ААТ «Барысаўдрэў».

«Можа быць, гэта няправільная трактоўка выказванняў прэзідэнта або памылка?» - выказаў меркаванне суразмоўца агенцтва, выказаўшы здзіўленне ў сувязі з такой нарматворчай ініцыятывай.

Ён падкрэсліў, што забараніць звальненне работнікам, у адпаведнасці з Працоўным кодэксам, можна толькі ў тым выпадку, калі «чалавек працуе па кантракце».

«Сёння на «Барысаўдрэве» большасць работнікаў - кантрактнікі», - адзначыў суразмоўца агенцтва.

У той жа час ён звярнуў увагу, што на прадпрыемстве складаныя ўмовы працы, невысокая заработная плата. Так, у кастрычніку сярэдняя зарплата работнікаў складала Br2,6 млн, у лістападзе зарплата была павялічана на 20%.

«Увогуле на прадпрыемствах дрэваапрацоўкі высокая цякучасць кадраў, гэта звязана з умовамі працы і ўзроўнем зарплаты. Прычым, на прадпрыемствах, якія размешчаны паблізу ад Менска ці абласных цэнтраў, цякучасць вышэй. У маленькіх гарадах людзі абмежаваныя ў выбары месца працы», - адзначыў прадстаўнік прафсаюза .

Ён таксама паведаміў, што ў цяперашні час большасць прадпрыемстваў дрэваапрацоўкі завяршаюць рэалізацыю інвестпраектаў па мадэрнізацыі і рэканструкцыі вытворчых магутнасцей. «Гэта самы складаны этап, калі патрабуюцца вялікія працоўныя выдаткі. Увогуле, можна зразумець, што людзі не хочуць укладвацца, калі ўмовы працы цяжкія, а зарплата пакідае жадаць лепшага», - сказаў суразмоўца агенцтва.

У той жа час ён падкрэсліў, што работнікам дамоўнай формы права на звальненне гарантавана Працоўным кодэксам.

«Не думаю, што ў выпадку, калі будзе прынятая такая забарона, узнікнуць масавыя забастоўкі ці іншыя крызісныя сітуацыі. Людзі будуць пісаць скаргі, вядома. Але да судовых пазоваў не дойдзе: кіраўнікі прадпрыемстваў будуць адпускаць работнікаў, каб не даводзіць справу да суда», - сказаў прадстаўнік рэспубліканскага камітэта Беларускага прафсаюза работнікаў лесу.

**http://spring96.org**

# Комитет ООН заступился за гомельского оппозиционера

Комитет ООН по правам человека признал, что власти Беларуси нарушили право гомельского оппозиционера Владимира Кацоры на проведение мирного собрания.

Как сообщил БелаПАН правозащитник Леонид Судаленко, в апреле 2006 года Владимир Кацора намеревался организовать в Гомеле митинг, посвященный 20-летию аварии на Чернобыльской АЭС. Для этого он распространил в городе листовки, за что суд наказал его арестом сроком на десять суток.

В феврале 2008 года Владимир Кацора являлся организатором встречи жителей Гомеля с экс-кандидатом в президенты Александром Милинкевичем. За это по суду он получил наказание в виде ареста на семь суток.

Пройдя все внутренние средства правовой защиты, Владимир Кацора обратился в Комитет ООН по правам человека. Комитет посчитал, что, преследуя своего гражданина в административном порядке за распространение информации о предстоящих мирных собраниях, государство нарушает его права, закрепленные в статье 19 Международного пакта о гражданских и политических правах.

На основании рекомендаций Комитета ООН правительство Беларуси должно обеспечить “жертве нарушения эффективное средство правовой защиты, включая полное возмещение затрат и надлежащую компенсацию”, а также обязано “не допускать подобных нарушений в будущем”.

“Власти Беларуси забывают, что, кроме закона о массовых мероприятиях, наша страна имеет еще и международные обязательства. Национальное законодательство противоречит международным соглашениям нашей страны, об этом уже неоднократно говорили международные эксперты. И суды, и чиновники не выполняют эти международные соглашения”, — считает Судаленко.

В прошлом году Комитет ООН по правам человека признал незаконной конфискацию у Владимира Кацоры во время парламентских выборов 2004 года предвыборных листовок. Также оппозиционер одержал победу над государством в отказе государственной регистрации созданного в Гомеле областного общественного объединения “Гражданская альтернатива”.

**charter97.org**

# Сколько стоит оскорбленное достоинство?

21.12.2012 Алесь ЖУРБА

**Нахамить любому из нас могут в магазине, поликлинике, государственном учреждении. Какими законными способами можно воздействовать на обидчика? Попробовать привлечь его к ответственности за оскорбление.**

**Для этого необходимо доказать:**

**1.** Факт оскорбления, т.е. умышленного унижения чести и достоинства.

Унижение чести и достоинства подразумевает вашу отрицательную оценку, дискредитацию в глазах окружающих, подрыв морального престижа.

Необязательно, чтобы информация, которая вас оскорбляет, получила распространения. Причем, оскорбить можно как высказыванием, так и действием (жесты, бросание предметов, срывание одежды). Для доказательства пригодятся диктофон и свидетели.

Желательно сразу записать прозвучавшие в ваш адрес фразы и попросить присутствующих при этом письменно подтвердить, что все изложенное соответствует действительности. В таком случае свидетелю будет сложно в дальнейшем отказаться от своих показаний.

**2.** Неприличную форму оскорбления (нецензурные выражения, сравнение с животными, одиозными персонажами, литературными героями).

Неприличность является оценочным понятием. И здесь большое значение имеет установление действительного смысла используемых слов. Например, Верховный Суд РФ по одному из дел об оскорблении пришел к выводу о том, что слова «сутенер» и «проститутка» не являются неприличными, поскольку словари русского языка Ожегова С.И. и Н.Ю. Шведовой относят их к литературным.

**От 400 тысяч рублей до 2 лет ограничения свободы**

С заявлением о привлечении к ответственности необходимо обращаться в милицию.

Административное наказание за оскорбление предусматривает штраф в размере от 400 тысяч до 2 миллионов рублей. Если привлеченное к ответственности лицо в течение года повторно совершит подобное правонарушение, то его можно привлечь и к уголовной ответственности с максимальным наказанием до 2 лет ограничения свободы.

К сожалению, на практике санкции за оскорбление применяются крайне редко, поскольку в таких случаях сложно доказать произошедшее. Альтернативой может стать внесение записи об оскорблении в книгу замечаний и предложений, которую и государственные органы, и частные организации обязаны предъявлять по первому требованию гражданина. Невыполнение данного требования, нарушение срока рассмотрения замечаний, либо неинформирование гражданина об отказе в удовлетворении замечания грозит руководителю штрафом до 1 млн рублей.

zautra.by

## С “Заботой” о бездомных животных

Очередная акция волонтеров средней школы №5 (руководитель – И. А. Занкевич) была направлена на помощь бездомным животным. Первая часть благотворительного мероприятия «Забота» была посвящена сбору денежных средств. «В акции приняли участие все наши ученики без исключения. Лидером среди младших классов стал 2 «В». Среди старших самую большую сумму собрали учащиеся 7 «А» класса. Всего в копилке волонтеров оказалось более полумиллиона рублей», - говорит Ирина Анатольевна. На собранные деньги были закуплены корма и лекарства для животных, которые находятся в пункте временного содержания безнадзорных животных. Как отметили сами волонтеры, подобные акции они планируют проводить и в дальнейшем.

## Падатковая хоча прыцягнуць праваабаронцу Судаленка да адміністрацыйнай адказнасці

16 лістапада гомельскі праваабаронца **Леанід Судаленка** атрымаў позву з інспекцыі па падатках і зборах па Савецкім раёне Гомеля аб яўцы 21 лістапада ў інстанцыю “у якасці асобы, у адносінах да якой вядзецца адміністрацыйны працэс”.

Раней падатковая патрабавала ў праваабаронцы, яго жонкі і сына, які служыць у войску, дэкларацыю аб даходах за пяць гадоў. Леанід Судаленка адмовіўся яе прадастаўляць.

«Верагодна, прыцягнуць да адміністрацыйнай адказнасці за невыкананне патрабаванні службовай асобы. Гэта ўжо не першая позва. У першай не было ўказана, у якасці каго мяне запрашаюць. Я напісаў у інспекцыю, каб яны канкрэтызавалі. Гэта ж кампетэнтны орган, а не цешча, якая запрашае на бліны. Я прыйду, у прызначаны час, але перад тым як ўдзельнічаць у працэсе, папрашу разгледзець мае хадайніцтвы», - распавёў БелаПАН праваабаронца.

Ён мае намер паставіць перад інспекцыяй шэраг пытанняў. Да прыкладу, службовыя асобы, якія дапусцілі разгалашэнне звестак, праследуюцца па закону. У 2008 годзе Судаленка ўжо здаваў дэкларацыю аб даходах у падатковую, а потым гэтыя звесткі з’явіліся ў газеце «Гомельская праўда», прычым у негатыўным ключы. «Я прашу інспекцыю растлумачыць, адкуль у рэдакцыі з’явіліся звесткі, якія я даў толькі падатковай. Таксама папрашу азнаёміцца з матэрыяламі справы, мне трэба ведаць, па чыім даручэнні дзейнічае падатковая, хто стаў ініцыятарам праверкі, а такімі могуць быць КДБ, КДК, органы ўнутраных спраў, іншыя органы. Таксама папрашу падатковую растлумачыць, чаму ў іх такая цікавасць да маёй сям’і, калі патрабуюць дэкларацыю нават у сына, які служыць у войску», - дадаў Судаленка.

Таксама ён звярнуў увагу на тое, што дэкларацыю могуць запатрабаваць, згодна з грамадзянскай заканадаўству, за тры гады, а ў яго патрабуюць за пяць гадоў.

http://naviny.by/

*Мазырскія* **НАВІНЫ**
ГРАМАДСКА-ІНФАРМАЦЫЙНАЕ ВЫДАННЕ
Наклад 299 асобнікаў
Эл. адрас рэдакцыі: mazyrcivil@gmail.com